**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№42(706) 17 кастрычніка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





**Зміцер Спірын з паляўнічым трафеем.**
*Фота Я. Самсонава.*
Працяг на стар. 5.



## Канцэрт арганнай музыкі ў Лучаі 20 кастрычніка

**20 кастрычніка ў Лучайскім касцёле – канцэрт арганнай музыкі.**

**Запрашаем на св. Імшу а 10:00, пасля якой адбудзецца канцэрт.**

### Лепельскі раён

# Вёска на нямецкі лад

■ Станіслаў Раманчук

**Вось ужо некалькі гадоў паблізу Лепеля для перасяленцаў з пацярпелай чарнобыльскай зоны з дапамогай замежных дабрачынных арганізацый узводзіцца пасёлак еўрапейскага тыпу.**

Днямі ў прыгарадным мястэчку Стары Лепель ва ўрачыстай абстаноўцы адкрылі ўслед за культурна-асветніцкім цэнтрам сучасны медыцынскі цэнтр. Ён разлічаны на якаснае медабслугоўванне не толькі тысячы мясцовых жыхароў, але і жыхароў дзесяці суседніх вёсак. Пры ўзвядзенні ФАПА XXI стагоддзя, як і раней, прымяняліся звыклыя на Захадзе экалагічна чыстыя матэрыялы і энергазберагальныя тэхналогіі. Сёлета пры ўзвядзенні гэтага медыцынскага цэнтра да ранейшых валанцёраў з Беларусі і Германіі дабавіліся і італьянскія добраахвотнікі з Апенінскага паўвострава. На свяце адкрыцця новага аб'екта незвычайнай вёскі прысутнічаў і пасол Германіі ў Беларусі Вольфрам Маас, які сказаў, што немцы заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу, калі здараюцца падобныя трагедыі, як на Чарнобыльскай АЭС. Асаблівасць новага медцэнтра плошчай 156 кв. метраў паблізу райцэнтра яшчэ ў тым, што побач з ім пабудавалі і шыкоўны 5-пакаёвы асабняк для медработніка, які будзе ў ім працаваць. На ўрачыстасцях уручылі сімвалічныя ключы ад новай медустановы, а потым усе агледзелі навенькія прыёмны пакой, працэдурны, фізіятэрапеўтычны, аглядавы кабінеты, сучасную кацельню. Як і іншыя новыя будынкі вёскі, медцэнтр аснашчаны сонечнымі батарэямі, а таксама энергазберагальнымі ліхтарамі і лямпамі. Стварылі тут усе зручнасці для абслугоўвання інвалідаў, а значную частку сродкаў на медустанову сабралі за кошт добраахвотных ахвераванняў нямецкіх партнёраў.

### Докшыцкі раён

# "Еўраопт" ужо і на трасе

■ Чэслаў Якубовіч

**У любую пару года вельмі насычаным бывае штодзень транспартны паток на ажыўленай трасе М3 Мінск-Віцебск, асабліва ў гарпасёлку Бягомль, што ў Докшыцкім раёне.**

Тут на перакрыжаванні некалькіх дарог да нядаўняга часу працавалі больш 20 розных аб'ектаў гандлю і прыдарожнага сервісу. Цяпер да іх дабавіўся і адзін з першых у сельскай мясцовасці вельмі папулярны сярод спажыўцоў магазін "Еўраопт". Гэта гандлёвая сетка развіваецца ў Беларусі найбольш дынамічна і зараз мае ўжо трэцюю частку ўсяго тавараабароту па ўсёй краіне. Мала ўжо засталося раёнаў, дзе б не меў сваё прадстаўніцтва "Еўраопт". Восенню буйная сталічная гандлёвая карпарацыя прыйшла і ў Бярэзінскі край. Мінчане выбралі для размяшчэння свайго гандлёвага цэнтра гэту бойкую дарогу. Новы свой магазін, аснашчаны па сучасных стандартах, яны абсталявалі ў былым пераабсталяваным бары мясцовага санаторыя "Баравое". Асартымент тавараў у адкрытай днямі новай гандлёвай кропцы пераважна харчовы, але з цягам часу будзе пашырацца і аддзел прамтавараў. Новы магазін "Еўраопт" адразу прыцягнуў увагу мясцовых жыхароў, ён карыстаецца попытам і сярод вадзіцеляў на трасе, жыхароў вёсак паблізу. Таксама для жыхароў пасёлка створаны дадатковыя працоўныя месцы, якія нядрэнна для глыбінкі аплочваюцца. Паколькі гандаль заўжды быў рухавіком прагрэсу, то пры ўзрослай канкурэнцыі павінны знізіцца цэны і ў іншых гандлёвых кропках. Увогуле зараз у Бягомлі можна знайсці кожнаму патрэбныя паслугі, бо тут і лазню можна заказаць, а ў кафэ-бары "Мерыдыян" любую імпрэзу альбо вяселле да 200 гасцей справіць па даволі дэмакратычных і даступных цэнах.

### Пастаўскі раён

# Ён жыў для людзей

■ Кастусь Александровіч

**Паступова і ў нашай краіне многія людзі сталі глыбока цікавіцца сваімі гістарычнымі каранямі і жыццём продкаў.**

Вось і ў Пастаўскім раёне пачаўся збор сродкаў на перывыданне вялікім накладам кнігі мясцовага настаўніка, пісьменніка і краязнаўцы Ігара Пракаповіча пра гэты куток Паазер'я. Хутка будзе выдадзены зборнік пра людзей, якія актыўна займаюцца краязнаўствам, а ў славутым Палацы Тызенгаўза з'явіцца музей. Між тым дзеючы раённы краязнаўчы музей пачаў новы праект пад назвай "Народны музей ХХ стагоддзя". Першую экспазіцыю прысвяцілі 100-годдзю з дня нараджэння мясцовага праслаўленага фотамайстра Уладзіміра Ясюкевіча. Ён спачатку быў умелым шаўцом па вырабе абутку, а потым сур'ёзна захапіўся фотамастацтвам. За савецкім часам, калі прыватнікам жылося цяжка, гэты чалавек стварыў у райцэнтры фактычна першую прыватную фотастудыю і быў вельмі запатрабаваны. У дзень майстру даводзілася вырабляць да двухсот фотаздымкаў, ён апярэдзіў свой час. За некалькі гадзін кліенты атрымоўвалі патрэбныя фота на розныя дакументы, можна было заказаць фотапартрэт, іншыя якасныя здымкі з памятных падзей. Неверагодна, але майстра ні разу нікога не падвёў, у сталым ужо узросце стаў пробаваць сябе ў каляровым і мастацкім фота. Таму і памятаюць дагэтуль людзі яго дзейнасць, у альбомах большасці сем'яў захоўваюцца ягоныя здымкі, а каля паўтысячы архіўных фота, апрацаваных у сучасных лічбавым фармаце, адабраны для выставы ў музеі побач з апаратурай і асабістымі рэчамі фотамайстра.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 17.10.13 | | | | Пятніца 18.10.13 | | | | Субота 19.10.13 | | | | Нядзеля 20.10.13 | | | | Пнд.21.10.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +6 | +10 | +6 | +5 | +6 | +11 | +5 | +3 | +2 | +8 | +3 | +2 | +2 | +6 | +3 | +1 | +2 | +6 |
| Ціск | 745 | 745 | 744 | 744 | 743 | 740 | 737 | 739 | 744 | 748 | 749 | 751 | 750 | 748 | 747 | 748 | 750 | 751 | 750 |
| Вільготнасць | 96 | 97 | 82 | 91 | 91 | 92 | 79 | 87 | 74 | 79 | 47 | 75 | 79 | 84 | 85 | 97 | 97 | 97 | 63 |
| Вецер м/сек | 1 З | 2 З | 2 Пд-З | 3 Пд | 4 Пд | 6 Пд | 6 Пд | 7 Пн-З | 7 Пн-З | 6 З | 6 З | 4 Пд-З | 3 Пд-З | 4 Пд-З | 1 Пд-У | 1 Пн-У | 2 Пн-У | 2 У | 4 Пд-У |

# Аб самым надзённым

## НЯСПЫННЫ РОСТ ЦЭН СВЕДЧЫЦЬ АБ СУР'ЁЗНЫХ ПРАБЛЕМАХ У БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Але ж нават калі нейкі мінчанін і заробіць за год рэальна каля 7 тысяч долараў, падлічыце колькі ён траціць на харчаванне. Любы сталічны жыхар скажа, што цяпер ён аддае да паловы сваёй зарплаты на тое, каб купіць ежу, настолькі яна стала дарагая.**

Пачатак сёлетняга ацяпляльнага сезона для большасці беларусаў выдаўся даволі трывожным. Даўно такога не было, каб так рэгулярна ў нас летам і ў пачатку восені імкліва раслі цэны і ўжо не кожны месяц, а здаралася і праз пару тыдняў на адзін і той жа від тавараў альбо паслуг. Устрывожанае гэтымі з'явамі насельніцтва ў сваю чаргу рванула пасля летніх водпускаў у абменныя пункты і ў верасні аб'ём пакупкі фізічнымі асобамі замежнай наяўнай валюты дасягнуў ашаламляльных 901,5 млн. долараў.

Па-свойму адрэагаваў, як вядома, на такую тэндэнцыю беларускі лідар, які заявіў так: " в последние месяцы, я смотрю, наш народец побежал в обменные пункты. Ну бегите! Мы уже научены горьким опытом. Еще раз подчеркиваю: ваша сульба в этом плане в ваших руках". Праўда, неўзабаве прагучаўшае на апошніх "Дажынках" даволі абразлівае слова "народец" было ў прэсе апушчана, але яно гучала ў прамым эфіры і цытата знаходзілася на сайце аднаго з асноўных тэлеканалаў СТБ. Зрэшты, такі факт меў месца, як і тое, што ўлада адказнасць за магчымую дэвальвацыю плаўна слабеючага беларускага рубля загадзя перакладае на айчынныя прадпрыемствы і на народ.

Цяпер ужо і многія суайчыннікі разумеюць, што інфляцыя выклікана ў нас найперш тым, што яшчэ з мінулага 2012 прыпыніўся рост беларускай эканомікі. Нашы тавары меней сталі купляць у Расіі і таксама ў дзяржавах Еўрасаюза, асноўных эканамічных партнёраў. Сёлета, як вядома, амаль на чвэрць знізіўся таму беларускі экспарт, бо перасталі дзейнічаць і сумніўныя схемы продажу айчынных нафтапрадуктаў пад відам растваральнікаў. На гэты год кіраўніцтва Беларусі заклала вялікі рост ВУП, але ў лепшым выпадку ў канцы снежня выйдзе не болей 1,4 % (па выніках 8 месяцаў такі паказчык 1,1 %).

Вось чаму ў другім месяцы восені сёлета мы сутыкнуліся з ростам цэн нават на сацыяльна важныя тавары і паслугі. Асабліва непрыемным і найбольш значным стала падаражэнне на 32 % газу. Блакітнае паліва ў нас заўсёды было танным, бо яго мы купляем у Расіі коштам у 3 разы меншым, чым Украіна і іншыя дзяржавы кантынента. Цяпер у кватэрах з газавымі плітамі і з прыборамі ўліку спажыўцы за кубаметр павінны плаціць па 1232 рублі. Нагадаем, што летам двойчы для беларусаў даражэла электраэнергія, тарыфы на яе павялічыліся на 12 % і ў верасні.

Толькі ў ліпені для беларусаў на павышаліся тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі і вось цяпер у сярэдзіне восені зноў сталі даражэйшымі цяпло і газ. А ўжо ў лістападзе кватэраздымшчыкі гэта адчуюць на сваёй кішэні, калі і прыйдзецца аплочваць паслугі ЖКГ па павышаных тарыфах. Ад росту цэн нельга нікуды дзецца, хібы што хадзіць болей пяшком, паколькі кастрычніцкі рост кошту праезду на грамадскім транспарце павялічыўся на 25 %. Пенсіянерам таксама меней у кастрычніку прыйдзецца ездзіць на прыгарадным транспарце на свае дачы. Льготы на праезд для гэтай катэгорыі насельніцтва ўжо перасталі дзейнічаць, а праезд падаражэў адразу на 30 %.

Характэрна, што ў іншых краінах нічога падобнага не назіраецца, а тыя ж украінскія пенсіянеры ўвогуле, хто не ведае, даўно бясплатна ездзяць і на метро, і на прыгарадных аўтобусах, электрычках за выключэннем толькі таксі. Па росце цэн наша сінявокая даўні нязменны "лідар" сярод дзяржаў на прасторах былой СССР і ў цэлым у свеце. І ўжо не радуюць тыя ж нібыта 600 долараў сярэднемесячных зарплат, якія ў глыбінцы мала хто на рукі атрымоўвае.

Але ж нават калі нейкі мінчанін і заробіць за год рэальна каля 7 тысяч долараў, падлічыце колькі ён траціць на харчаванне. Любы сталічны жыхар скажа, што цяпер ён аддае да паловы сваёй зарплаты на тое, каб купіць ежу, настолькі яна стала дарагая. У айчынны АПК дзяржава ўклала 50 млрд. долараў, але што мы маем на выхадзе? Многія калгасы, афіцыйна розныя ААТ па-ранейшаму ледзь зводзяць канцы з канцамі, не маюць грошай ужо цяпер на выплату заробкаў сваім работнікам. А нам яшчэ даводзяць, што беларусы ўмудрыліся сёлета ( хто гэта мог падлічыць) нібыта вывезлі за мяжу 3 млрд. долараў, каб купіць там "шмоткі", а не сваё "беларускае".

На самой справе ў беларусаў усё меней грошай на руках становіцца, паколькі з 5 кастрычніка падаражэў яшчэ і хлеб на 10 %. Каб інфляцыя была менш прыкметнай, вытворцы сталі змяншаць масу выпускаемых прадуктаў. У выніку ўпакоўкі хлеба сталі лягчэйшымі на сотні грамаў, як і пакеты малака з кефірам, пачкі масла і нават цукеркі. Зацягнуць паясы зімой і таксама "пахудзець" прыйдзецца і беларусам, як і болей хадзіць пешшу, бо іншага выйсця няма і трэба жыць па сродках…

## Дзень за днём

**Перад ацяпляльным сезонам для беларусаў падаражэлі сацыяльна значныя тавары – хлеб, цяпло, газ і праезд на транспарце. З-за канфлікту з "Уралкаліем" выпуск калійных угнаенняў у Беларусі ў жніўні скараціўся на 48 %, напрыкан-цы лета ўдалося зменшыць запас непрададзе-най прадукцыі па краіне толькі на 3 %. Прэзідэнт прыгразіў чыноўнікам турмой за хлусню па раз-грузцы складоў. У самым багатым горадзе краіны Мінску заробкі зменшыліся на 19 %. Пад пытаннем з-за складанасцей у эканоміцы далейшае пад-вышэнне пенсій беларусам. У тэставым рэжыме пачаў вяшчанне новы цалкам спартыўны тэлека-нал "Беларусь 5".**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Амаль 800 тысяч дзяржслужачых адправілі ў бестэрміновы адпачынак з-за спрэчак кангрэса з прэзідэнтам аб павышэнні ліміту знешняга доўгу, краіне стаў пагражаць дэфолт.

**Украіна.** Краіна зрабіла гістарычны выбар і аб'явіла стратэгічны курс на інтэграцыю і асацыяцыю з Еўрасаюзам, за што Расія прыгразіла ўкраінцам эканамічнымі праблемамі.

**Грэцыя.** Урад краіны правёў серыю арыштаў лідараў і актывістаў ультраправай партыі "Залаты рассвет", яна прытрымліваецца прафашысцкіх прынцыпаў, мае 7 % у парламенце.

**Іспанія.** Прэм'ер-міністр М. Рахой заявіў, што краіна выйшла з рэцэсіі, але не з крызісу, у 2014 годзе будзе рост эканомікі 0,5-1 %, пачнецца зніжэнне беспрацоўя (зараз 26 %).

**Казахстан.** Прэм'ер-міністр Беларусі М. Мясніковіч прызнаў, што будучы Еўразійскі саюз ствараецца з цяжкасцямі, няма яснасці па многіх пытаннях, куды ісці далей.

**Расія.** Эксперты Мінэканомразвіцця РФ падлічылі, што ў 2014 годзе курс беларускага рубля абваліцца яшчэ на 37 %, сёлета дэвальвацыя нацвалюты беларусаў складзе 14 %.

**Азербайджан.** Аўтарытарны дзеючы прэзідэнт Ільхам Аліеў ізноў выйграў выбары, трэція па ліку, яго сям'я і прыбліжаныя фактычна ўзялі пад свой поўны кантроль усю дзяржаву.

Малдова. Жыхароў краіны парадавала, што Еўрасаюз поўнасцю адкрыў свой рынак для імпарту малдаўскага віна, Расія спыніла яго закупкі з-за быццам дрэннай якасці напояў.

**Італія.** Парламент краіны выказаў вотум даверу ўраду і прадухіліў востры палітычны крызіс, італьянцы стаміліся ад пастаянных канфліктаў і неэфектыўнага кіравання.

**Аўстрыя.** Правячая кааліцыя кансерватараў і сацыял-дэмакратаў паказала на выбарах у парламент найгоршы вынік пасля вайны, але змагла ўтрымацца пры ўладзе ў краіне.

**Расія.** Запланаванае на верасень пасяджэнне Саюзнага ўрада РФ і Беларусі не адбудзецца і ў кастрычніку, прэм'ер Д. Мядзведзеў не жадае сустракацца з беларускім калегам.

Канада. Прыватная ракетабудаўнічая кампанія SpaceX з дапамогай сваёй новай ракеты Falkon 9 паспяхова адправіла ў космас канадскі спадарожнік з большым грузам.

**Карэя.** Кампанія Samsung паказала самы высокі ў свеце прарыў на сучасныя высокія тэхналогіі, з 2008 года з займаемага тады 26-га выйшла на 2-е месца на планеце.

**Украіна.** На Запарожскім аўтазаводзе пачалі рыхтавацца да масавага выпуску красовераў і зборкі новых мадэляў аўтамабіляў Opel, Chevrolet, Kia і сваіх аўто класа "Еўра-5".

**Англія.** У продаж у кнігарні краіны паступіў новы раман пра "агента 007" Джэймса Бонда, які расказвае пра прыгоды супершпіёна ў Афрыцы і яшчэ на двух кантынентах свету.

# ІП, прыватныя натарыусы, адвакаты і рамеснікі ў Беларусі змогуць атрымліваць у поўным аб'ёме дапамогу па доглядзе за дзіцем да трох гадоў



■ БЕЛТА

**Індывідуальныя прадпрымальнікі, прыватныя натарыусы, адвакаты і рамеснікі ў Беларусі змогуць атрымліваць у поўным аб'ёме дапамогу па доглядзе за дзіцем да трох гадоў. Адпаведны ўказ № 462 «Аб некаторых пытаннях прызначэння і выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» 9 кастрычніка падпісаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага лідара.**

Выданне ўказа абумоўлена тым, што з 1 студзеня 2013 года індывідуальным прадпрымальнікам, прыватным натарыусам, адвакатам і рамеснікам, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце да трох гадоў, адпаведная дапамога па доглядзе за дзіцем ўстаноўлена ў памеры 50% ад яго поўнага памеру, як і грамадзянам, якія працуюць у перыяд догляду за дзіцем да трох гадоў па працоўных дагаворах больш за палову нормы працоўнага часу.

Улічваючы, што грамадзяне, якія працуюць па працоўных дагаворах, маюць права на перыяд догляду за дзіцём ва ўзросце да трох гадоў прыпыніць сваю працоўную дзейнасць, аформіўшы ў адпаведнасці з заканадаўствам сацыяльны адпачынак з выплатай дапамогі ў поўным памеры, гэты ўказ забяспечвае магчымасць рэалізацыі аналагічнага права індывідуальнымі прадпрымальнікамі , прыватнымі натарыусамі, адвакатамі і рамеснікамі.

Рэалізацыя палажэнняў указа дасць магчымасць індывідуальным прадпрымальнікам, прыватным натарыусам, адвакатам і рамеснікам самім выбіраць - ажыццяўляць адпаведную дзейнасць у перыяд догляду за дзіцём ва ўзросце да трох гадоў і атрымліваць дапамогу ў памеры 50% або часова прыпыніць яе і атрымліваць дапамогу ў поўным памеры.

Указ уступае ў сілу праз дзесяць дзён пасля яго афіцыйнага апублікавання.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** З-за пагрозы ўвядзення выязной пошліны 100 долараў , як прызналі ў Нацыянальным банку РБ, беларусы восенню зноў рэзка сталі скупляць у абменных пунктах замежную валюту.

**Жлобін.** Кіраўнік краіны ўсклаў адказнасць на "народзец" за магчымую зноў у Беларусі дэвальвацыю нацыянальный валюты, эксперты прагназуюць падзенне і рубля, і ВУП да канца года.

**Астравец.** Ва ўрадзе Беларусі зацвердзілі праектную дакументацыю Беларускай АЭС, будучай атамнай станцыі далі такую назву, найменне Астравецкая АЭС не будзе.

**Мінск.** Двух сталічных адвакатаў Камітэт дзяжаўнай бяспекі затрымаў за атрыманне хабару, генеральны дырэктар Мінскага мясакамбіната атрымаў ужо за гэта 4,5 гады турмы з канфіскацыяй маёмасці.

**Гродна.** Суд Ленінскага раёна вызваліў журналіста польскай "Газеты Выборчай" Андрэя Пачобута ад адбывання пакарання 3 гады зняволення за "паклёп на прэзідэнта".

**Гомель.** Інвестар з Японіі, кампанія Kavasaki да 63,5 % павялічыла сваю долю ў мясцовым матарамонтным заводзе, тут пачалі выпускаць ужо 8 мадэляў скутараў Hors.

**Салігорск.** Ажыўлення прадаж калію на сусветных рынках , як спадзяваліся на рудніках "Беларуськалія", у верасні не адбылося, там працавалі напалову сваіх магутнасцей.

**Бабруйск.** У мясцовай калоніі кіраўнік незарэгістраванага праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі даведаўся аб прысуджэнні прэстыжнай прэміі імя Вацлава Гавела.

**Жодзіна.** Канцэрн БелАЗ выпусціў самы вялікі ў свеце самазвал грузападымальнасцю 450 тон, аслак развівае хуткасць да 64 км/г, мае 8 колаў дыяметрам шын 4 метры кожная.

**Гродна.** На 23 кастрычніка прызначылі ў Варшаве прэзентацыю выдадзенай на польскай мове ў выдавецтве Editio кнігі мясцовага журналіста А. Пачобута "Сістэма Беларусь".

**Мінск.** Падчас чэмпіянату свету-2014 па хакеі, як заявіў глава федэрацыі хакея Беларусі Яўген Ворсін, пераносіць заняткі ў сталічных вышэйшых навучальных установах не будуць са згоды Міністэрства адукацыі.

**Магілёў.** На сметніку цвёрдых бытавых адыходаў ля вёскі Новая Мілееўка бамжы зноў знайшлі каля 9 гадзін раніцы труп новаанароджанага хлопчыка, які знаходзіўся ў паліэтыленавым пакеце.

**Гродна.** Так і не паспеў даехаць дамоў з дачы 64-гадовы пенсіянер, ён памёр за рулём пасля раптоўнага спынення сэрца ў салоне іншамаркі, зляцеў у кювет з дарогі.

**Мінск.** Каб здаць да 7 лістапада "Чыжоўку-Арэну" коштам больш 1 трыльён рублёў, на аб'екце будаўнікі сталі працаваць круглыя суткі, назва спартыўнага комплексу будзе зменена.

**Баранавічы.** Адну з трох вучаніц адзінага ў горадзе беларускага класа ў СШ №14 педагог давяла да слёз за адмову слухаць дзяржаўны гімн, дзіцяці бліжэй гімны з словамі аб Богу.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Швачкі двух змен фабрыкі "КІМ" спынілі працу пасля выдачы ім па 250 тысяч пры даўгах па зарплаце за 2 месяцы, у пачатку восені тут ужо былі хваляванні рабочых.

**Шуміліна.** З дапамогай інвестараў з Расіі на СП "ІскПошук" пачалі выпуск лазняў з ацыліндраванага бруса, на прадпрыемстве да канца года будзе ўжо 400 рабочых месц.

**Мёры.** Малады камбайнёр ААТ "Узменскі край" Віктар Шамёнак не толькі атрымаў сёлета дыплом Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, але і прывёз дамоў з "Дажынак" аўтамабіль.

**Віцебск.** Да 70 чалавек сталі прымаць цяпер штодзень у гарвыканкаме па пытаннях прыватызацыі жылля, кошт 1-пакаёвай кватэры ў абласным цэнтры вырас да 237-263 мільёнаў.

**Бешанковічы.** У райцэнтры адкрылі бясплатную гасцініцу выхаднога дня для маладых інвалідаў да 31 гадоў з камп'ютарным класам, трэнажорнай залай, гурткамі для творчасці.

**Верхнядзвінск.** Пры падтрымцы партнёраў, фонду з Галандыі "Дапамажы людзям" у райбальніцы адкрылі абноўленае па сучасных мерках хірургічнае аддзяленне.

**Расоны.** Да ацяплянага сезона ў райцэнтры мадэрнізавалі цэнтральную кацельню №1 з двума новымі катламі па 2 МВт для работы на мясцовым паліве і складам для шчапы.

**Віцебск.** Пад ціскам праваабаронцаў свету ўрачу-праўдарубу І. Пастнову не толькі спынілі прымусовае псіхіятрычнае лячэнне, але і прапанавалі працу ў клініцы ўрачом-нарколагам.

**Ушачы**. Выратавальнікі МНС у вёсцы Славені выратавалі кабылу пенсіянера, якая трапіла ў вырыты штучны глыбокі вадаём і не магла самастойна адтуль выбрацца на сушу.

**Віцебск.** Меней года прапрацаваў гендырэктарам "Віцебскага ДБК" Д. Мельнікаў, ён страціў пасаду і стаў фігурантам 2-х крымінальных спраў за аб'екты, будуемыя ў Расіі.

**Ноўка.** У пасёлку з-за кароткага замыкання электраправодкі загарэўся пакой з касцюмамі Дома культуры Віцебскага раёна, яны былі знішчаны агнём разам з дэкарацыямі.

**Глыбокае.** Натэрыторыі раённай бальніцы ў паркавай зоне з'явілася алея ветэранаў аховы здароўя, раней тут заклалі вішнёвы садпобач з капліцай святога пакутніка Панцелеймона.

**Варапаева.** У мясцовым Доме культуры прайшоў чарговы раённы конкурс маладых сем'яў "Майстры сяла" з удзелам гасцей з Латвіі, сям'я латышоў Скудра падзяліла 1 месца

**Полацк.** Народны клуб майстроў шыцця "Рошвы" заваяваў Гран-пры абласнога свята-конкурсу "Здраўненская палітра-2013" сярод 50 удзельнікаў з РБ, РФ, Украіны і Латвіі.

**Дуброўна.** На багатых журавінамі балотах ля аграгарадка Асінторф прайшоў раённы конкурс "Каралева балотнага царства" па ўменні збіраць каштоўныя ягады.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ **Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*

# Першы беларускі касманаўт

*На Глыбоччыне 13 кастрычніка адзначылі 125-гадовы юбілей з дня нараджэння Язэпа Драздовіча*

**Чытач можа здзівіцца: а пры чым тут першы беларускі касманаўт і Язэп Драздовіч? Бо ўсе ж ведаюць, што першы беларус, які пабываў у космасе, гэта Пётр Клімук. Першым жа ў космас паляцеў Юрый Гагарын у 1961 годзе, а Язэп Драздовіч памёр у 1954 годзе, за сем гадоў да гэтай падзеі.**

Але Язэп Драздовіч адным з першых пачаў пісаць карціны на касмічныя тэмы. У 1931 годзе мастак напісаў шэраг карцін на касмічныя тэмы: “Падкружнікавы краявід на планеце Сатурн”, “Астранамічная абсерваторыя на брылявіку”, “Касмаполіс”, “Сатурнянка” і іншыя. У гэтым жа годзе ў Вільні Язэп Драздовіч выдае брашуру “Нябесныя бегі”, у якой на аснове сваіх дакладных падлікаў імкнецца высветліць пытанні, датычныя руху Зямлі. Потым наш зямляк напісаў працу “Гармонія планетаў Сонечнае сістэмы”, якую лічыў самай значнай працай свайго жыцця. Значную частку сваёй працы ён прысвяціў Сатурну і яго кольцам, гэтую планету Язэп Драздовіч лічыў самай цікавай у Сонечнай сістэме. У 1935 годзе Драздовіч напісаў касмічныя палотны “Піянеры Зямлі на Месяцы” і “Каналы Марса”. У 1948—1950 гадах Язэп Драздовіч напісаў манаграфію “Тэорыя руху ў касмалагічным значэнні”. Гэта вынік яго роздумаў над гармоніяй руху нябесных цел. У 1948—1952 гадах ім напісаны шматлікія артыкулы на касмічныя тэмы: “Экліптыка”, “Як утваралася наша Сонечная сістэма”, “Аб тэлескапічным і мікраскапічным Сусвеце”, “Эфір і беззэфір'е” і іншыя працы.



**«Космас».** *Язэп Драздовіч. 1943 г.*

Вось таму мы з поўным правам можам лічыць Язэпа Драздовіча першым беларускім касманаўтам.

Наогул, Язэп Драздовіч – асоба ўнікальная. Ён дзейнічаў і як мастак, і як навуковец, і як этнограф, і як гісторык. Усяго і не пералічыш. Праўда, на бюсце Язэпа Драздовіча на глыбоцкай Алеі славутых землякоў сціпла напісана: “Язэп Драздовіч. Мастак”. Відаць, гэтым кароткім надпісам і паказана жыццёвая сціпласць “дзядзькі Язэпа”, як яго часта называлі.

Коратка ўзгадаем яго жыццёвы шлях. Нарадзіўся ён 1 кастрычніка (13 кастрычніка па новаму стылю) 1888 года ў засценку Пунькі на Глыбоччыне, што на самым ускрайку Галубіцкай пушчы. Вучыўся ў Дзісненскай гімназіі, потым чатыры гады ў Віленскай мастацкай школе. Далей Язэп Драздовіч атрымліваў адукацыю самастойна. У 1914 годзе выходзіць яго першая кніга “Курганная кветка”, вокладку для якой аформіў ён сам. Афармленне ж яго кнігі замовіў рэдактар Янка Купала.

У 1919-1920 гады Язэп Драздовіч становіцца мастаком-дэкаратам у Беларускім дзяржаўным тэатры, які ў тыя часы насіць назву Беларускай хаткі. У 1921 годзе Язэп вяртаецца на родную Дзісеншчыну. Неўзабаве ў 1924 годзе ён становіцца выкладчыкам мастацтва ў Глыбоцкай школе, а пасля Драздовіча-настаўніка паклічуць працаваць у Радашковіцкай і Навагрудскай беларускіх гімназіях. У 1931 года Язэп Драздовіч падаўся ў вандроўкі па родных мясцінах, зарабляючы маляваннем.

Пасля 17 верасня 1939 года вучыўся на кароткачасовых настаўніцкіх курсах і ў 1940—1941 працаваў настаўнікам малявання і батанікі ў Глыбокім і Лужках. Памёр Язэп Драздовіч у Падсвільскай бальніцы 15 верасня 1954 года, за тры гады да запуску першага штучнага спадарожніка.

На 125-годдзе мастака, якое прыпала на нядзелю, каля магілы Язэпа Драздовіча сабраліся мастакі, краязнаўцы, журналісты, мясцовыя жыхары, проста неабыякавыя людзі. Былі ўскладзеныя кветкі, прагучалі цёплыя словы ў адрас нашага славутага земляка. Кіраўнік культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча, які месціцца ў Германавічах, Ада Райчонак распавяла прысутным, як яны разам з мастаком Алесем Марачкіным вярталі імя дзядзькі Язэпа з забыцця. Шмат для гэтага рабіў яе сын Міхась Райчонак, які, на жаль, вельмі рана пайшоў з жыцця. Спадарыня Ада нагадала, што толькі двум беларускім мастакам пастаўлены помнікі – Марку Шагалу ў Віцебску і Язэпу Драздовічу ў Мінску. Але першы з іх пакінуў родную зямлю, каб пісаць свае творы на чужыне, Драздовіч жа, наадварот, вярнуўся на родную зямлю, каб маляваць тут.

На мітынгу памяці мастака выступілі таксама мастакі Алесь Шыёнак і Святлана Баранкоўская, журналісты, паэты, сваякі. Мясцовая жыхарка Аліна Тышко ўзгадала пра свае сустрэчы з Язэпам Драздовічам, распавяла пра тое, як ён расказваў ім пра космас, пра хуткія палёты ў яго людзей. ***“Мяне яшчэ ўспомняць і пашукаюць,”*** – казаў Драздовіч. І сапраўды, гэтыя словы збываюцца, пра дзядзьку Язэпа ўспомнілі, творы яго шукаюць, зараз яны каштуюць немалых грошай.

Пасля наведвання магілы Язэпа Драздовіча ўдзельнікі імпрэзы сабраліся на бацькоўскай сядзібе Мар’яна Місевіча ў Перадолах. Яны паглядзелі фільм пра Язэпа Драздовіча, пра першы пленэр, прысвечаны яму.

На гэтай сустрэчы скульптар Генік Лойка з Мінску прэзентаваў сваю скульптуру “Ад неба зямлі”, якую прысвяціў Язэпу Драздовічу. На гэтай скульптуры хлопчык узіраецца ў неба, каб зразумець нябесныя бегі. Гэтую скульптуру Генік падараваў музею Язэпа Драздовіча ў Германавічах.

Удзельнікі сустрэчы прынялі рашэнне звярнуцца да мясцовых уладаў, каб яны дазволілі ўсталяваць памятны знак на месцы засценка Пунькі, адкуль пайшоў у вялікі свет наш славуты зямляк.



**Мар'ян Місевіч ускладае кветкі да магілы Язэпа Драздовіча. Спадар Мар'ян у дзяцінстве бачыў дзядзьку Язэпа ў Перадолах.**



**Ада Райчонак**



**“Ад неба зямлі”.** *Скульптар Генік Лойка.*



**Аліна Тышко згадвае пра свае сустрэчы з Язэпам Драздовічам.**



**Скульптар Генік Лойка і мастак Святлана Баранкоўская (Віцебск).**

# Віншуем Міхала Гіля з юбілеем!

**Краязнаўцу, грамадскаму дзеячу, выдаўцу Міхалу Гілю з Паставаў 12 кастрычніка споўнілася 55 гадоў. Ад усяго сэрца віншуем яго з юбілеем!**

Хочацца пажадаць спадару Міхалу моцнага здароўя, сямейнага шчасця, плёну ў працы.

Міхал Гіль з’яўляецца аўтарам кніг “Былыя сядзібы і паркі Паазер’я. Пастаўшчына” (2004 г.), а таксама ў суаўтарстве з “Былыя сядзібы і паркі Паазер’я. Астравечына” (2005 г., у суаўтарстве з Тадэвушам Нальшчанам), “Былыя сядзібы і паркі Паазер’я. Мядзельшчына” (2008 г., у суаўтарстве з Янам Драўніцкім). Вядомыя таксама пераклады кніг Міхала Гіля з польскай мовы, сярод якіх “Глыбокае” Отана Гедэмана, “Беразвечча ў службе Бога і ў моцы дэманаў” Яўгенюша Забелы, “Уланы, уланы – прыгожыя дзеці” і шмат іншых.

*У бліжэйшы час мы змясцім на старонках газеты размову з Міхалам Гілём.*



***Кожны рух чалавека асвечаны вялікім сэнсам і мае мноства наступстваў.***
*Паула Коэльо «Падобна рацэ…»*

# Дрэва прарочая вестка

■ **Ала Мароз-Майсяёнак,** *г. Дзісна.*

Дрэвы – таністыя вартавыя, чые вяршыні першымі сустракаюць кожны світанак, які нараджаецца і першымі прымаюць на сябе маланкі навальнічнай непагадзі. Дрэвы – істоты чудоўныя, чыё адвечнае імкненне ў вышыню, у абшары нябесных шырот, натхняе і чалавека, што воляй лёсу заўсёды побач, не забываць пра сваю веліч.



Лёгкі зялёны аксаміт вясновых і летніх крон, танец жывых энергій – бурленне, струменне, вясёлы воплеск, гарэзлівая віхура. Як шчодра бывае адораны сілай кожны, хто наблізіцца да дрэва з адкрытым сэрцам.

Для чаго дрэву дадзена вяршыня? Зусім не толькі для таго, каб дырыжыраваць аблокамі. Ёсць свая святая місія ў дрэва быць пасярэднікам паміж небам і зямлёй. Прыняць вяршыняй нябесны пасыл, адбіць яго ва ўласнай сутнасці, перадаць зямлі і вярнуць дарунак зваротна – галінамі, лістотай, кветкамі.

Так продак калісьці, які ведаў пра вялікую сваю місію перад Творцам і сваё сваяцтва з кожным божым стварэннем, і да дрэва прыходзіў, як да супрацоўніка. Ён умеў размаўляць з ім, бачачы ў ім разумнага суразмоўцу, і мог разлічваць на абсалютнае паразуменне. Ён любіў дрэва, як любяць сябра, і аказваў яму ўшанаванні, якімі і павінна было ўганароўвацца ўсякае ўвасабленне боства. Калі ж даводзілася яму ссякаць дрэва для патрэбы жыццёвай, то звяртаў продак просьбу да драўлянай сутнасці і прасіў у яе прабачэння. Пры такой чуласці і адкрытасці дрэва добраахвотна ахвяравала сабой дзеля чалавека.

Не такія, зусім не такія ўзаемаадносіны з дрэвам у чалавека цяпер.

Сёння дрэва баіцца чалавека, таму што ведае, якой бязлітаснай бывае чалавечая карысць і якім жорсткім становіцца яго невуцкае сваволле.

«Ну, ужо не, – запярэчыць хтосьці, – усё гэта паквольныя перабольшанні, і зусім не так усё страшна ў нашым цывілізаваным свеце: існуе закон, які стаіць на абароне зялёных насаджэнняў, засцерагаючы іх ад высечкі сістэмай дакладна распрацаваных правіл». Аднак ці можна з упэўненасцю сказаць, што ўсе гэтыя правілы заўсёды бездакорна выконваюцца? Ці не трапляюць пад спіл зараз са старымі небяспечнымі дрэвамі і маладыя, здаровыя толькі таму, што воляю лёсу апынуліся ў зоне, дзе разгуляліся пілы? І ці станецца пасля гэтага папоўненым згублены «зялёны фонд» нашых паркаў і сквераў?

І яшчэ аб адным, набалелым: няма чамусьці ў законе «Пра раслінны свет» пункта, які забараняе… нявечыць дрэва.

Сучасныя ўяўленні пра прыроду не ідуць ні ў якое параўнанне з ведамі пра свет тварэння, якімі валодалі людзі далёкага мінулага. Прыглядзіцеся, напрыклад, да маладой ліпы. Яе крона, якая не была яшчэ закранута дзеяннямі «облагораживателей», нагадвае верацяно. І не выпадкова, бо на верацяно, па словах дасведчаных, падобна энергетычнае цела самога чалавека. Дрэвы – велізарныя акумулятары энергіі зямлі і сонца. Менавіта для таго, каб паўнавартасна выконваць сваю місію, і патрэбна дрэву вяршыня.

Падобна чалавеку службу нясе любое дрэва. Продкі нашы абсаджвалі паселішчы свае бярозамі. На кожным падворку былі дуб, ясень, ліпа. А побач з паселішчам саджаліся гаі. І адчувалі заўсёды сябе людзі спакойна пад абаронай вяршыняў. Чалавек далёкага мінулага, актыўна ўзаемадзейнічаючы з энергетыкай дрэва, ніколі не забываў, аднак, і пра зваротны дарунак. Нават простая падзяка дрэву ёсць зваротны энергетычны пасыл.

У сучасных сваіх гарадах саджае чалавек дрэвы шэрагамі. Доўга, цяжка растуць дрэвы перш чым стануць, нарэшце, высокімі, таністымі і ўвянчаюцца пышнай кронай-каронай, у якой вольна і ахоўна птушкам. Можа быць, сталі ўпірацца галіны ў правады, можа быць, залішне густыя цені адкідаюць на пабудовы, а можа быць, проста з лістотай, што ўвосень ляжыць пад нагамі, не хочацца іншаму важдацца. І тут з'яўляецца ўсё той жа чалавек з пілой ды сякерай у руках і прымаецца за «акультурванне». Можа быць, сапраўды, прыгажосці хацеў чалавек і якойсьці-ніякойсьці культуры, толькі застаюцца пасля яго работ замест велічных дрэваў, што злучалі зямлю з небам, выродлівыя абцінкі. За некалькі гадоў, вядома, адрастуць на іх галіны, але ніколі ўжо не будзе ў дрэва вяршыні, і птушкі не захочуць віць гнёзды ў дзіўных гэтых угоддзях. І чаму б гэта чалавеку разумнаму не ўзяць сабе за правіла думаць загадзя і пра правады, і пра цень, і пра лісце, калі ўжо пра веліч і пра свае нябесныя місіі яму сёння думаць няма калі.

Але ж не, ёсць усё ж на раллі калектыўнага псіхаполя чалавецтва чулыя парасткі, і ёсць той, хто шкадуе кожнае знявечанае дрэва ў сваім горадзе, ратуе птушак, якім пагражае гібель, і маленькага зайчаняці, чыя маці пала ахвярай нечай карысці.

Нядрэнна было б, вядома, калі б у кожным, нават малым, мястэчку быў свой адмысловец-дызайнер па азеляненні, які ўлічвае і рост дрэў, і блізкасць праводоў, каб не даводзілася электрыкам і іншым спілоўваць сукі ды верхавіны, нявечачы дрэва. А пакуль яго няма…

Дрэвы – наш агульны здабытак і жывыя сутнасці, стаўленне да якіх, як да братоў меншых, з'яўляецца мераю духоўнасці ўсякага і ўсіх разам. Таму трэба сотню разоў задумацца, перш чым размахнуцца сякерай. З аднаго боку – ёсць кіраўнікі з мясцовых, хто заняты пытаннямі вырашэння лёсу дрэў, абвешчаных праблемнымі, ёсць меркаванне вышэйстаячага кіраўніцтва, з якім прынята лічыцца. Але ёсць яшчэ і звычайныя людзі, хто сэрцам прымае бяду клёнаў, ліп ці таполяў. Але так ужо павялося ў нас з «часоў ачакаўскіх», што гэтыя *проста людзі* неправамоцныя прымаць рашэнні, з імі забываюць ці не лічаць патрэбным раіцца. Яны – з іншага боку, як з іншага берага, іншай планеты. У якія вякі адважацца раптам гэтыя «хадакі» ад народа выказацца ўслых, не маючы цвёрдай упэўненасці ў тым, што будуць словы іх пачуты, а пачуцці зразуметыя. Але пра што казаць, калі сякеры і пілы ўжо зрабілі сваю працу?!

Ёсць адзін бясспрэчны факт, над якім трэба задумацца тым, хто ва ўладзе: дрэвы – не іх уласнасць.

Так-так, з некаторых часоў я абсалютна сур'ёзна думаю пра тое, што сучасным гарадскім распарадчыкам варта дазволіць сабе хоць часам прыслухацца да голасу тых, даўно ўжо нешматлікіх, індывідаў з народа, у кім не загасла яшчэ здольнасць пачування і таму становіцца магчымым спасцігнуць розумам сэрца даўно забытыя веды. Гэтым яны аказалі б неацэнную паслугу свету, грамадству і сабе самім. Быць можа, не ўсё станецца для нас страчаным, калі перастанем, нарэшце, мы, людзі, супрацьпастаўляць сябе адзін аднаму і здабудзем сябар у сябра супрацоўнікаў падобна таму, як было гэта ў нашых продкаў з усімі божымі істотамі.

**«Древа вещая весть!**
**Лес вещающий: Есть**
**Здесь, над сбродом кривизн –**
**Совершенная жизнь:**
**Где ни рабств, ни уродств,**
**Там, где всё во весь рост...»**

Прагну верыць – толькі не ў дасканаласць жыцця, якое ўсялякі разумее так, як здатны, а ў яднанне розуму з сэрцам, што дыхае адзінай праўдай любові.

Думку з мудрай кнігі: людзі спасцігнуць духоўных сфер не раней, чым адчуюць адзінства сваё з сутнасным светам прыроды. Таму хай *асвячоным* будзе любы наш жэст у бок прыроды: вужоў, жаб, травы, – і… суседзяў нашых – дрэў.

Увесну вярнулася птушка са свайго доўгага, цяжкага і небяспечнага вандравання, вярнулася дахаты – на сваю ліпу, прынесла травінку ў дзюбе, каб падправіць перазімавалае гняздо. Толькі няма ў яе ліпы ні верхавіны, ні кроны, хоць была здаровай яна і зусім яшчэ не старой. Сядзела на абцінку роднага дрэва птушка, упусціўшы травінку, і доўга, доўга крычала. Але адмахнуліся ад яе крыку людзі, якія тыраняць суседнія дрэвы. Нічога не пачуў чалавек-распарадчык, які сядзіць у цвёрдым крэсле за тоўстымі сценамі свайго кабінета, куды не пранікаюць ні птушыныя пошчакі, ні птушыныя стогны.

Але як усё ж хочацца, нягледзячы ні на што, верыць, што ў адносінах жывога да жывога наступяць аднойчы добрыя часы!

*Красавік, 2013 г.*

# Печ павінна грэць, а не гарэць

■ **А. Андрыеўскі**
*інспектар ІДПН Глыбочкага РАНС.*

У халодную пару года значная колькасць пажараў адбываецца ў выніку няправільнага абслугоўвання ці няспраўнасці ацяпляльнага абсталявання. Каб грэцца бяспечна, вельмі важна не дапушчаць перакалу печы, таму ў зімовы час лепш некалькі разоў у дзень працепліць яе на працягу паўтары-дзвюх гадзін.

Нельга ўжываць для распальвання печы лёгкаўзгаральныя вадкасці, цепліць яе з адкрытымі дзверцамі, пакідаць іх без нагляду, даручаць сачыць за печамі, якія цепліцца дзецям, сушыць і складаваць на печах паліва, адзенне і іншыя гаручыя матэрыялы і рэчывы. Спыняць тапіць печы неабходна за дзве гадзіны да адыходу пражываючых да сну.

Попел, шлак, вугаль трэба выдаляць у адмыслова адведзенае месца, размешчанае на адлегласці 15 метраў ад згаральных будынкаў.

На падлозе перад топкай неабходна прыбіць металічны (перадтопачны) ліст памерамі не меней 50х70см).

Ні ў якім разе нельга растопліваць печы дровамі, якія не змяшчаюцца ў топку. Па паленах агонь можа выйсці вонкі і перакінуцца на бліжэйшыя прадметы.

**Памятайце, адрамантаваць печ значна танней, чым ухіляць наступствы пажару.**

# Адкрыўся асенне-зімовы сезон загоннага палявання ў Глыбоцкай паляўнічай гаспадарцы

■ **Яўген Самсонаў**

**З 1 кастрычніка адкрыўся доўгачаканы асенне-зімовы сезон загоннага палявання 2013-2014 на лася, высакароднага аленя, кабана, казулю еўрапейскую, лань еўрапейскую і аленя плямістага, які прадоўжыцца да 30 снежня.**

З гэтай нагоды, а 8-й гадзіне 5 кастрычніка, на 7-м кіламетры шашы Пятроўшчына-Капыльшчына, па папярэдняй дамове, сабралася больш за два дзясяткі паляўнічых са зграяй дыпламаваных лаек. Сярод паляўнічых былі і мінчане.

Усё як мае быць: праверка дакументаў, узнос, істрyктаж па тэхніцы бяспекі, аб'весткі і – уперад: хто ў загон, а хто на нумары.

Групу загоншчыкаў узначальваў дырэктар паляўнічай гаспадаркі Анатоль Козел, а стралкоў на нумарах растаўляў егер Канстанцін Сайкоўскі.

Як загоншчыкі, так і большасць стралкоў спадзяваліся здабыць дзіка. Але ў хуткім часе, падчас першага загону, на стралка выйшаў "шумавы" лось, і госць з Мінска, Зміцер Спірын, не даў маху – трапным стрэлам здабыў сахатага. Больш у загоне нічога вартага не было. Безвыніковымі, у сэнсе дзіка, былі другі і трэці загоны.

Але гэта не амрочыла неразлучных паляўнічых, а выдатная шурпа напрыканцы палявання (яе можна прыгатаваць менавіта на прыродзе, у спецыяльным чане і па своеасабліваму рэцэпту), якую прыгатаваў дасведчаны паляўнічы Аляксей Акулёнак, прынесла шчырую радасць сустрэчы з старымі сябрамі.



Інструктаж перад паляваннем.



Аляксей Акулёнак гатуе шурпу.

# Вынікі нагляднай дзейнасці ДПН Глыбоцкага РАНС

У верасні 2013 года інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях завершаны праверкі 3-х аб'ектаў: прыватнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства «ПРАМЕНЬ-Плюс» (дырэктар Арэхва Д.А.); Рэспубліканскага ўнітарнага вытворчага прадпрыемства «ВК 13-Беразвечча» Дэпартамента выканання пакаранняў МУС РБ (дырэктар Пянькевіч В.Б.); ВУ «Выпраўленчая калонія №13» упраўлення Дэпартамента выканання пакаранняў МУС РБ па Віцебскай вобласці (начальнік Раманчук В.Ф.); а таксама завершана пазапланавая праверка ДУА «Глыбоцкая раённая гімназія» (дырэктар Хведнец Л.М.).

Пры правядзенні праверкі **ПГУП «ПРАМЕНЬ-Плюс»** выяўлены наступныя парушэнні нормаў і правілаў пажарнай бяспекі (далей – парушэнні):

- у будынку крамы не праводзіцца тэхнічнае абслугоўванне і рамонт установак сігналізацыі;
- згаральныя канструкцыі паддашкавага памяшкання будынка крамы не апрацаваны вогнеабаронным саставам;
- будынак крамы не забяспечаны спраўнай маланкаабаронай.

Усе малаважныя парушэнні тэхнічных нарматыўна -прававых актаў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі былі ўхілены падчас праверкі.

Пры правядзенні праверак **РУВП «ВК 13-Беразвечча» ДВП МУС РБ і ВУ «Выпраўленчая калонія №13» УДВП МУС РБ** выяўлена, што:

- работа па забеспячэнні пажарнай бяспекі кіраўніцтвам суб'ектаў праводзіцца на здавальняючым узроўні;
- кантроль за выкананнем парушэнняў дакументаў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі, указаных у папярэдніх актах і прадпісанні дзяржаўнага пажарнага нагляду ажыццяўляецца, але без сістэмнага інфармавання Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях;
- эфектыўнасць арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў па забеспячэнні пажарнай бяспекі дадзеных аб'ектаў на здавальняючым узроўні;
- першаснымі сродкамі пажаратушэння суб'екты ўкамплектаваны ў поўным аб'ёме;
- на аб'ектах маюцца планы мерапрыемстваў па павышэнні ўзроўню супрацьпажарнай абароны, загады пра ўскладанне адказных за выкананне патрабаванняў супрацьпажарнай бяспекі.

Па выніках пазапланавай праверкі **ДУА «Глыбоцкая раённая гімназія»** усталявана, што ў інтэрнаце гімназіі сігнал пра спрацоўванне аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі не выведзены на пункт дыспетчарызацыі пажарнай аўтаматыкі МНС, што ў сваю чаргу перашкаджае хуткаму выяўленню пажару. У будынку інтэрната не праведзена вогнеабаронная апрацоўка драўляных канструкцый паддашкавага памяшкання. У сутарэнным памяшканні будынка інтэрната гімназіі дапушчаецца складаванне гаручых матэрыялаў, што ў сваю чаргу стварае дадатковую пагрозу ўзнікнення пажару, а таксама можа перашкаджаць эвакуацыі з будынка пры пажары. Дадзеныя парушэнні змяншаюць узровень забеспячэння пажарнай бяспекі ў будынку інтэрната.

*Інспекцыя ІДПН Глыбоцкага РАНС*

# Забарона на здабычу ракаў уводзіцца ў Беларусі з 15 кастрычніка

**У Беларусі з 15 кастрычніка па 15 ліпеня будзе дзейнічаць забарона на здабычу вузкапальцага рака, паведаміла БЕЛТА прэс-сакратар Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Вольга Грамовіч.**

Працягласць забароннага перыяду абумоўлена асаблівасцямі віду - для выношвання ікры самцы рака неабходна больш як паўгода.

Згодна з дзеючымі правіламі, за незаконную лоўлю вузкапальцага рака ў перыяд забароны парушальнікі павінны будуць кампенсаваць нанесеную прыродзе шкоду ў памеры 1,5 базавай велічыні за кожную асобіну. Таксама ім пагражае штраф ад 10 да 50 базавых велічынь, а пры нанясенні ўрону ў буйным памеры (ад 40 базавых велічынь) прадугледжана крымінальная адказнасць (цяпер адна базавая велічыня складае Br130 тыс. - Заўвага. БЕЛТА).

Акрамя вузкапальцага рака ў вадаёмах Беларусі пражывае шыракапальцы рак. Ён занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі, таму ў выпадку вылаву павінен быць выпушчаны ў вадаём у жывым выглядзе.

*Кар. БЕЛТА.*



# Загінулая на дарозе жывёла – уласнасць арандатара паляўнічых угоддзяў

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Восень цалкам уступіла ў свае правы, дні становяцца ўсё карацей, ночы даўжэй і цямней. З палёў прыбіраюць апошні ўраджай, тым часам дзікія жывёлы актыўна мігруюць у пошуках ежы, асабліва на кукурузныя палі. Менавіта, у восеньскі час, часцей у начны, кіроўцы трапляюць у непрыемныя сітуацыі, якія звязаныя з дарожна-транспартнымі здарэннямі з раненнем ці гібеллю жывёлаў, пашкоджаннем аўтатранспарту.

Таму, кіроўцам неабходна быць асабліва ўважлівымі пры пераездзе ўчасткаў лясных масіваў, паблізу збожжавых і кукурузных палёў. Калі ж здарылася ДТЗ з удзелам дзікай жывёлы, то кіроўца павінен у першую чаргу паведаміць пра здарэнне ў бліжэйшы аддзел унутраных спраў. Дзяжурны АУС накіруе да месца ДТЗ самы блізкі нарад ДАІ, паведаміць прадстаўнікам прыродаахоўных органаў (лясгас, дзяржаўную інспекцыю, карыстальнікам паляўнічых угоддзяў) на ўчастку якога адбылося ДТЗ, бо загінулая жывёла з'яўляецца ўласнасцю арандатара паляўнічых угоддзяў. Кіроўцы і яго пасажыры ні пад якой падставай, не маюць права забіраць тушу загінулай дзікай жывёлы, ажыццяўлять разрабляванне ці перавозку тушы дзікай жывёлы без адпаведных дакументаў, гэтыя дзеянні з'яўляюцца парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства, за якое прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па ч.2 арт. 15.37 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні» «Парушэнне правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання», штраф у памеры да 30 базавых велічынь.



У шмат якіх грамадзян слушна ўзнікае пытанне: мая машына пабітая, я сам пацярпеў ад дзікай жывёлы, а яшчэ і магу стаць вінаватым? Закон выразна рэгламентуе правілы паводзін у дадзеным выпадку. Таму, каб хоць як кампенсаваць выдаткі на аднаўленне машыны, неабходна застрахаваць сваю маёмасць, выконвайце хуткасны рэжым у месцах верагоднага з'яўлення дзікіх жывёл, будзьце ўважлівыя на дарозе, асабліва ў начны час і пры дрэнным надвор'і.

Каб не парушыць прыродаахоўнае заканадаўства і не стаць міжвольным парушальнікам, неабходна строга выконваць закон. Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання – адзіныя для ўсіх грамадзян.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-28670 – «гарачая лінія» кругласутачна, 890-55-28, 897-23-02, 249-45-49.

## МНС інфармуе на 15.10.2013 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 838;
Гібель людзей – 104, з іх 1 дзіця;
Урон – 3835,588 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 40;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 308.4 млн. руб.



## Віншаванкі

Яўгена Самсонава

**віншуем з 58-і ўгодкамі ад нараджэння!**

Евгений, желаем в день рожденья,
Чтоб было все у тебя сполна:
Здоровья, счастья, вдохновенья,
Всегда довольная жена.

Пусть дома ждут тебя, улыбаясь,
Пусть дети радуют собой,
В душе пусть воцарится радость,
А в сердце – счастье и покой!



*Ад супрацоўнікаў «ВГ».*

# Рыбы не здабыў, але штраф выплаціць прыйдзецца

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Паляванне для шмат якіх грамадзян - гэта не толькі спосаб пражытку, здабыча дзічыны, а хутчэй лад жыцця, змяніць які вельмі цяжка, і, калі такі чалавек не сходзіць на паляванне, ён проста пачынае «хварэць».

У сувязі са з'яўленнем ачагоў афрыканскай чумы на тэрыторыі вобласці, у наш час значна спрасціліся спосабы, тэрміны палявання, а таксама ўрадам усталяваны мінімальныя кошты за паляўнічыя трафеі, дзіка. Усе ахвотныя паляўнічыя могуць за невялікія грошы здабыць для асабістых патрэб дзіка, але толькі на законных падставах, г.зн. ліцэнзія на здабычу дзікай жывёлы павінна быць. Аднак, паляванне, і спосабы яго правядзення заўсёды павінны быць законнымі, але, на жаль, яшчэ часта сустракаюцца людзі са зброяй і іншымі прыладамі палявання, якія не хочуць і не жадаюць выконваць закон.

Так, 7 кастрычніка 2013 года на тэрыторыі Докшыцкага раёна супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету затрыманы жыхар г.п. Бягомль грамадзянін Н., які выкарыстоўваў для палявання на вадаплаўную дзічыну, патроны, забароненыя для палявання на птушак, а менавіта карцеч, памерам 7,15 мм. Паляўнічыя ведаюць, што такой карцечай лёгка можна здабыць кабана, казулю і нават сяголетка лася, да таго ж маючы паляўнічую пуцёўку на вадаплаўную дзічыну, грамадзянін Н., паляваў у лесе, дзе вадаёмаў і блізка няма. Слушна ўзнікае пытанне, на каго паляваў чалавек?

Паляванне на яе можна ажыццяўляць толькі пры наяўнасці неабходных дакументаў на права палявання, зброю пры паляванні на пушнога звера можна зараджаць толькі шротавымі патронамі. Паводле міждзяржаўнага стандарту ДАСТ 7837-76 шротавымі патронамі прызнаюцца патроны, якія зараджаныя дробам дыяметрам да 5 мм (0000).

Памеры карцечы адпавядаюць наступнаму шэрагу, мм: 5,25, 5,60, 5,70 і вышэй, такім чынам, патрон, які зараджаны карцечай 5,25 мм і знаходзіцца ў ствалах стрэльбы пры паляванні на вадаплаўную дзічыну, пушнога звера – прызнаецца незаконным і паляўнічы нясе адміністрацыйную адказнасць.

Не спыняецца браканьерства на вадаёмах, практычна штотыдзень супрацоўнікі інспекцыі затрымоўваюць парушальнікаў з сеткамі, павукамі і іншымі забароненымі прыладамі рыбалоўства.

8 кастрычніка каля 20 гадзін вечара пры правядзенні чарговага прыродаахоўнага рэйду інспектары затрымалі двух жыхароў Пастаўскага раёна, якія ажыццяўлялі здабычу рыбы на канале, які ўпадае ў раку Галбея пры дапамозе пад'ёмнай сеткі (павука). Няўдачлівыя рыбаловы паспелі здабыць 10 асобінаў карася і былі затрыманыя. Зараз парушальнікаў чакае раённы суд. На наступны дзень, 9 кастрычніка на тым жа канале інспектары затрымалі жыхара г.п. Шаркоўшчына з забароненай прыладай рыбалоўства, пад'ёмнай сеткай, толькі вось рыбы здабыць грамадзянін К., не паспеў, але штраф выплаціць прыйдзецца. Тэлефоны «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету: 8-02156-28670, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

